PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714

# Ніва

беларускі грамадска-культурны тыднёвік

№ 19 (1826) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 12 МАЯ 1991 г. ЦАНА 800 зл.

## РАДА БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ

12 красавіка 1991 года стала важнай датай у жыцці нашага Беластоцкага краю — адбылося першае пасяджэнне Рады беларускіх арганізацыяў у Польшчы. Такім чынам фармальна ажыццявілася ідэя, праца над якой вялася ад пачатку гэтага года. Якія этапы прывялі да стварэння Рады?

20 студзеня 1991 года ў сядзібе Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку адбыўся форум беларускіх арганізацыяў і асяроддзяў. Удзельнічалі ў ім прадстаўнікі Беларускага грамадска-культурнага таварыства, Беларускага аб'яднання студэнтаў, Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, Літаратурнага аб'яднання „Белавежа", Грамадскага камітэта пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры, Праваслаўнага брацтва, праваслаўнага духавенства ды прадстаўнікі паасобных асяроддзяў. Карацей кажучы, хто хацеў узяць голас, той і з'явіўся на форум. На форуме і была прадстаўлена ідэя стварэння Рады беларускіх арганізацыяў як аб'яднання ўсіх грамадска-палітычных сілаў дзеля вырашэння кардынальных для беларускай грамадскасці пытанняў, аб'яднання, якое абапіралася б на трох прынцыпах: удзельніцтва ў Радзе добраахвотнае, дзейнасць Рады не парушае статутнай дзейнасці паасобных арганізацыяў-сяброў, кожная арганізацыя мае роўны голас у Радзе. Чаму, аднак, 20 студзеня, на форуме беларускіх арганізацыяў і асяроддзяў, Рада беларускіх арганізацыяў не сталася фактам? Паколькі давялося мне ўдзельнічаць на ўсіх сустрэчах, звязаных з арганізацыяй Рады, дазваляю сабе на некалькі заўваг агульнага характару. У хуткай арганізацыі Рады беларускіх арганізацыяў перашкодзіла ступень падрыхтаванасці паасобных арганізацыяў і асяроддзяў да гэтай справы. На форуме тарнаваліся дзве тэндэнцыі. Адна група ўдзельнікаў, зыходзячы з неабходнасці стварэння Рады (прымаючы гэта ex definitione), намагалася схіліць дыскусію ў бок дэталёвай распрацоўкі арганізацыі Рады. Іншыя засяроджвалі сваю энергію на дэталёвых пытаннях, якія пярэчылі ідэі заснавання Рады, што, бадай, і не дазваляла ім сфармуляваць агульны вывад. Эфектам працы форума стала кароткае камюніке, у якім удзельнікі таго ж форума згадзіліся прыкласці намаганні дзеля згуртавання і інтэграцыі арганізацыяў і асяроддзяў у карысць беларускай справы.



*Пятро Юшчук — старшыня Рады беларускіх арганізацыяў.*

23 лютага 1991 года ў рэдакцыі тыднёвіка „Ніва" прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў

(Працяг са стар. 5)

## ТВАРАМ ДА ВЁСКІ

Не сціхаюць пратэсты сялян у сувязі з нізкай рэнтабельнасцю сельскай гаспадаркі. І клопат тут не толькі ў тым, што ўсе сродкі прадукцыі непараўнальна даражэйшыя, чым фінальны прадукт, і нават не ў тым, што ўзятыя крэдыты на развіццё гаспадаркі падвойваюцца ў свaёй суме да сплаты ўжо праз некалькі месяцаў. Але самае горшае, што сяляне нашыя застаюцца без граша галоўным чынам таму, што не маюць дзе прадаваць збожжа, мяса, малака прынамсі па зноснай цане.

Асабліва гэты працэс даўся ў знакі людзям у нашых беларускіх вёсках, дзе ў выніку шматгадовага занядбання ў сельскагаспадарчых інвестыцыях, паглыбленага сённяшнім развалам арганізацыі скупкі сельскагаспадарчых прадуктаў і адсутнасцю перспектыў для малых і

(Працяг на стар. 6)

## ТАДЭУШ МАЗАВЕЦКІ Ў БЕЛЬСКУ

20 і 21 красавіка на Беласточчыне пабываў былы прэм'ер-міністр польскага ўрада Тадэуш Мазавецкі. Пасля прэзідэнцкіх выбараў Т. Мазавецкі стварыў партыю — Дэмакратычную унію, якая мае гуртаваць прыхільнікаў тых палітычна-эканамічных пераўтварэнняў у краіне, што запачаткаваў і на працягу года рэалізаваў яго ўрад. 11 мая адбудзецца кангрэс, на якім, паводле агульнага спадзявання, дойдзе да аб'яднання на адной палітычнай платформе Дэмакратычнай уніі з РОАД-ам (Ruch Obywatelski — Akcja Demokratyczna, якім кіруе Уладзіслаў Фрасынюк) і дэмакратычнай плынню ў польскім правым руху (Forum Prawicy Demokratycznej Аляксандра Галя). Спатканні старшыні Дэмакратычнай уніі з жыхарамі Беласточчыны (у Беластоку, Саколцы і Бельску) трэба расцэньваць як пачатак таго палітычнага змагання (на аснове шматпартыйнасці), якое неўзабаве здынамізуецца ў сувязі з парламенцкай выбарчай кампаніяй.

Канферэнцыйная зала Раённай управы ў Бельску не памясціла ўсіх ахвотных паслухаць Т. Мазавецкага, шмат хто цясніўся ў дзвярах і на калідоры. Былы прэм'ер абмежаваў сваё паўтарагадзіннае спатканне адказам на пытанні жыхароў Бельска. Спатканне вёў дзеяч Уніі з Беластока К. Палінскі.

Гутарка пачалася з даволі вострага патрабавання аднаго з бяльчан, каб не кранаць праблемы нацыянальных меншасцяў: „Гэта вы там у Варшаве робіце шум вакол гэтага пытання, а мы тут у Бельску жывем мірна і без канфліктаў". Нехта другі сказаў, што такога пытання на Бельшчыне няма, а ёсць толькі „абрусельыя ў час расей-

(Працяг на стар. 4)

### ПЕРАХАВАННЕ АНТОНА ЛУЦКЕВІЧА

**Таварыства беларускай культуры пры Літоўскім фондзе культуры і віленскі клуб „Сябрына" запрашаюць беларусаў з усіх куткоў свету на ўрачыстасць перахавання Івана Луцкевіча, якая адбудзецца ў суботу 18 мая 1991 г. а 11 гадзіне на могільніку Роса ў Вільні. Вечарам таго ж дня ў памяшканні клуба „Сябрына" адбудзецца вечар, прысвечаны Яго памяці.**

*

Зацікаўленым паездкай у Вільню паведамляем, што ў турыстычных фірмах Беластока за 50—55 тысяч злотых можна купіць „ваўчэр", які ўпаважняе да перасячэння граніцы і забранiравання двух начлегаў.




— 38 —

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Будучыня беларускага народа вырашаецца не ў Амерыцы і не ў Польшчы, а ў Беларусі. Зразумела, што падзеі ў чужых краінах уплываюць на беларускую рэчаіснасць, аднак не ў такой ступені, як тое, што дзеецца ў самой краіне.

Галасаванне ў справе адносін савецкіх людзей да аднаўленага Савецкага Саюза дало адназначны адказ, як на гэту праблему глядзяць беларусы. І вынікаў гэтых нельга нікому недаацэньваць. Баюся, што вынікі могуць упэўніць кіруючую ў БССР партыю ў беспамылковасці свайго шляху і давесці да поўнай дамінацыі партыйнай „кансервы“, а апазіцыю раздражніць і піхнуць у бок экстрэмальных дзеянняў. Такім чынам можа дайсці да поўнага разыходжання паміж гэтымі сіламі. Пакуль што не бачу ні з боку кіруючай краінай партыі, ні з боку апазіцыі добрай волі і шчырага імкнення да кампрамісу. Абодва бакі яўна пераацэньваюць свае сілы і перад усім перацэньваюць сілу сваіх рацый. Партыя мусіць узяць пад увагу тое, што, нягледзячы на адназначны характар галасавання, беларускія масы не хочуць жыць па-старому, як гэтага хацела б партыя, а апазіцыя не можа не бачыць таго, што беларусы не хочуць жыць і пановаму, паводле апазіцыйных рэцэптаў. Значыць, ёсць недзе неадкрытая пакуль што і незразумелая як для партыі, так і для апазіцыі мадэль новага, якое адпавядала б беларускаму народу.

Калі чытаем партыйную афіцыйную прэсу і апазіцыйную прэсу нефармалаў, дык кідаецца ў вочы тое, што абодва бакі хацелі б перахіліць шалю перамогі на свой бок сілавым прыёмам. А тым часам, здаецца мне, што беларускі народ абсалютна не прагне змагацца, а тым болей паміраць за ідэалы партыі або апазіцыі.

Вось гэты момант павінен быць узяты пад увагу як адным, так і другімі. Калі не сіла і змаганне, дык талерантнасць, размовы, уступкі і кампрамісы. Метад, які быў прыменены міліцыяй пад Курапатамі, таксама недарэчлівы і сляпы, як і метад, які прымяніла апазіцыя сёмага лістапада летась пад помнікам Леніну. Учынкі як адных, так і другіх адабралі ім тысячы, тысячы прыхільнікаў. Экстрэмізм чужы беларускай душы. Спробы зашчапіць беларусу нянавісць маюць злачынны характар. Было яе на нашай зямлі дастаткова. На шчасце, яе насьбіты — сталіністы і гітлераўцы — выраслі на чужых нацыянальных глебах і на беларускай зямлі праводзілі свае злачынныя эксперыменты. Зразумела, што здолелі яны дэфармаваць душы многіх беларусаў і прыцягнуць іх да сваіх злавесных практык. Аднак народ як народ, застаўся такім, якім быў — добрым. І мы, сённяшняе пакаленне дзеячоў, незалежна ад сваіх палітычных меркаванняў, перакананняў, не маем права забіваць у душы ўласнага народа дабрату, сеяць у яе нянавісць, кіруючыся наіўным імкненнем да перамогі. Такая перамога будзе нашым супольным паражэннем і катастрофай. Адвечнага нашага характару, дадзенага нам Богам або прыродай, нельга змяняць. Ужо і так ён страшэнным чынам зменены ў факце трактоўкі беларусамі роднай мовы як чужой, а чужой як роднай.

І адзін і другі бок мусіць зразумець, што не можа быць далей так, як ёсць і не можа быць зусім па-другому, чым ёсць. Хтосьці можа сказаць, што прапагандую гнілы кампраміс. Так, я за кампраміс, але за здаровы.

Трэба сесці за стол, бачачы ў тым, хто сядзіць насупраць, чалавека добрай волі. І перастаць яго ненавідзець, і пачаць яго шанаваць, і яму верыць. Зрабіць усё для таго, каб дамовіцца. Кіравацца не ідэяй выключна сваёй перамогі, сваёй ідэі ці стратэгіі, а толькі і выключна інтарэсамі беларускага народа.

І самае галоўнае, каб ніхто за гэтым сталом не хітрыў, не махляваў, не стараўся ўвесці ў зман і каб рашэнні сустрэчы былі святыя і абавязваючыя назаўсёды, а не да моманту паслаблення аднаго з бакоў.

Хтосьці скажа, што развіваю наіўную хрысціянскую ідэалістычную канцэпцыю. Няхай сабе! Памятайма, што шчырая наіўнасць адна з найпрыгажэйшых чалавечых рысаў, а слова ідэалістычны паходзіць, магчыць, ад слова ідэал, без якога нельга жыць чалавеку.

**Алесь Барскі**

# З мінулага тыдня

**Першамай у Беластоку** адзначаўся пад лозунгам „Цяпер не мусіш, цяпер можаш“. З гэтай нагоды адбыліся мітынг ля гарадской ратушы і шэсце па вуліцы Кюры-Складоўскай, у якіх прымала ўдзел некалькі соцень чалавек. Дамагаліся яны, між іншым, рэферэндума у справе аборту, ліквідацыі беспрацоўя, паўстрымання клерыкалізму.

**Вельмі ўрачыста адзначалася ў краіне 200 гадавіна Канстытуцыі 3 Мая.** У гонар гэтай гістарычнай падзеі ў Варшаве адбылося ўрачыстае пасяджэнне Сейма і Сената Рэчыпаспалітай Польскай. У Беластоку з гэтай нагоды быў адкрыты помнік Польскім Узброеным Сілам на Захадзе. У цырымоніі пасвячэння помніка ўдзельнічаў асабісты пасланнік архіепіскапа Савы **а. Анатоль Лаўрашук.** У Гайнаўцы ў каталіцкім касцёле і ў царкве былі адслужаны юбілейныя набажэнствы, а потым экуменічны малебен пры ўстаноўленым у гарадскім парку абеліску ў гонар Канстытуцыі 3 Мая. У малебне прымалі ўдзел: з боку Праваслаўнай царквы — благачынны Гайнаўскага благачыння **а. Антон Дзевятоўскі,** а з боку Каталіцкага касцёла — ксёндз дэкан **Альфонс Трахімяк.**

Паводле меркаванняў старшыні Агенцтва развіцця прамысловасці **Пятра Скаржынскага,** у Польшчы **на грані банкрутства знаходзіцца каля 400 заводаў.**

**Велькапольскі клуб грамадскай думкі „Вольнасць — Роўнасць — Незалежнасць“** з Познані выдаў заяву, у якой да падтрымку страйкуючым у Мінску і салідарызуецца з імкненнем грамадства Беларусі да свабоды, справядлівасці і нацыянальнай незалежнасці. Заява сцвярджае таксама, што польская ўсходняя палітыка не паспявае за хуткімі пераменамі на тэрыторыі Савецкага Саюза.

**Наступствам масавых страйкаў у Мінску,** на думку намесніка старшыні Вярхоўнага Савета БССР **Станіслава Шушкевіча,** можа быць радыкалізацыя мыслення прадстаўнікоў партыйнай і дзяржаўнай улады. На апошнім пленуме ЦК КПСС першы сакратар Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі **Анатоль Малафееў** сказаў: „Лічу, што ўратаваць краіну ад развалу можа толькі ўвядзенне надзвычайнага становішча на тэрыторыі СССР“. Генеральны сакратар ЦК КПСС **Міхаіл Гарбачоў** не падзяліў гэты погляд і сказаў, што ўвядзенне ваеннага становішча будзе ацэнена „як канцэпцыя контрперабудовы, як замах на рэстаўрацыю былой сістэмы“.

**Лідэры рабочага руху** вырашылі ўжо загадзя рыхтавацца да адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета БССР, якая пачнецца 21 мая.

**Клуб беларускай інтэлігенцыі** ствараецца па ініцыятыве Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Клуб будзе адкрыты для людзей розных палітычных арыентацый і арганізацыйнай прыналежнасці, а адной з мэт яго ўзнікнення будзе інтэграцыя асяроддзя.

## ЗАПРАШЭННЕ

17 мая (пятніца) а гадз. 19.00 у аўдыторыі Медыцынскай акадэміі ў Беластоку выступіць хор Дзяржаўнага радыё і тэлебачання БССР пад кіраўніцтвам праф. Віктара Роўды. Білеты можна купіць у праваслаўных прыходах Беластока.

# Што і чаму?

Дванаццатага красавіка ўжо канстытуавалася Рада беларускіх арганізацыяў. На функцыю яе старшыні выбраны юрыст Пятро Юшчук, член Краёвай управы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Як згадвалася раней, існаванне Рады паспрыяе больш рацыянальнай дзейнасці арганізацыяў, канцэнтрацыі іх высілкаў на нацыянальна важных накірунках (пра Раду чытайце ў артыкуле Аляксандра Максімюка на стар. 1).

У мінулым годзе, у кастрычніку, адбыўся (нашумеўшы) сімпозіум „Белавежа '90“. Па ініцыятыве д-ра Антона Міравовіча, на красавіцкай сесіі Галоўнай рады і Краёвай управы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання вырашана прапанаваць зацікаўленым гэтым беларускім палітычным сілам арганізоўваць чарговы сімпозіум, „Белавежа '91“. Значэнне імпрэзы мае тэарэтычны характар, паглыбляе разуменне праблемаў Беларусі і месца беларускага народа ў свеце.

Дваццаць першага красавіка Тэрытарыяльная рада Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Бельску наладзіла (фенаменальную!) сустрэчу з нядаўнім прэм'ерам Польшчы Тадэвушам Мазавецкім і яго супрацоўнікамі з апазіцыйнай цяпер Дэмакратычнай уніі, якая запрапанавала нам, як вядома, пертрактацыі яшчэ задоўга да візіту гэтага дзяржаўнага палітыка на Беласточчыну. З уводным словам выступіў старшыня бельскай Рады БДА Славамір Іванюк. Пасобныя праблемы нашай меншасці прадставілі — Васіль Ляшчынскі, Андрэй Сцепанюк, Юрка Баена, д-р Яўген Міранові́ч, Ян Максімюк, Сакрат Яновіч і інш. Канцэнтравалася гаворка на прыняцці Сеймам уставы на нацыянальныя меншасці, папулярна званай Малой Канстытуцыяй Непалякаў, як і на канчатковай форме выбарчай ардынацыі, якая павінна стварыць беларусам (і не толькі ім) шанцы мець уласных парламенцёраў, каб гаварыць сваім голасам пра свае справы ў найвышэйшым форуме Рэчыпаспалітай. Ставіліся таксама пытанні рэформы навучання беларускай мовы і гісторыі ў тутэйшых школах, палітыкі ўладаў да беларускага руху, гаспадарчай заняпаласці Усходняй Сцяны, ізаляванасці беларусаў палякамі ў

(Працяг на стар. 5)

# З МЮНХЕНА

**24 сакавіка ў Мюнхене ў капліцы Святой Марыі, пры царкве Святога Мікалая, адбылася багаслужба на беларускай мове. Старадаўняя капліца над рэчкай Ісарай была заснавана Латэранскім законам у 1678 годзе. Белыя сцены капліцы і яе ўтульнасць нагадваюць крыху атмасферу храмаў на Беларусі.**

**Гэтая незвычайная ва ўмовах Нямеччыны падзея адбылася напярэдадні ўгодкаў незалежнасці Беларусі. Святую літургію праваслаўнага абраду для нешматлікай беларускай грамады ў Мюнхене адслужыў айцец Канстанцін Бандарук. У сваім казанні айцец Канстанцін заклікаў вернікаў не забываць родную мову, шанаваць і цаніць народныя традыцыі і багатую спадчыну „вялікага і дзяржаўнага“ беларускага народа. Урачыстая багаслужба закончылася малебнам за „шматпакутную краіну нашу Беларусь і яе народ“.**

**Айцец Канстанцін заклікаў прыходзіць на рэгулярныя беларускія багаслужбы праваслаўнага абраду, што маюць адбывацца адзін або і два разы на месяц у Мюнхене.**

**ВАЛЯ ЛАЕЎСКАЯ**
*(Радыё Свабода, Мюнхен)*

# ТАМАРА ТАРАСЕВІЧ —ВЫВЯРЖЭННЕ ТАЛЕНТУ

— Чысты феномен людскіх магчымасцей, — гэтак акрэсліў жывапіс Тамары Тарасевіч з Белавежы вядомы беластоцкі мастак Мікалай Валкавыцкі, рэкамендуючы яе ў Саюз польскіх мастакоў. Вялікія словы, скажа хтосьці, намякаючы на перабольшванне мастаком здольнасцей невядомай дагэтуль мастачкі-аматаркі. Не, М. Валкавыцкі не перабольшвае. Каб быць у гэтым упэўненым, трэба проста паглядзець абразы Тамары. І многія ўжо гэта зрабілі. Тамара арганізавала тры выстаўкі — апошнюю на адкрыццё Белавежскага дома культуры „Зубр“, дзе паказала амаль усе свае палотны. Выстаўка выклікала фурор — на працягу тыдня паглядзела яе звыш 2 тысяч чалавек. У памятнай кніжцы ўпісаны толькі адны словы захаплення і зычанні мастацкага плёну.

Як гэта сталася, што Тамара Тарасевіч пачала маляваць? Яе ж усе ведаюць як медсястру. На гэтай пасадзе яна прапрацавала 15 гадоў — спярша ў Гайнаўцы, дзе, зрэшты, нарадзілася, потым у Нараўцы і, нарэшце, у Белавежы.

— Цягу да малявання, — адкрывае свае думкі Тамара, — мела я ад дзяцінства. Удзельнічала ва ўсіх школьных мастацкіх конкурсах, здабывала ўзнагароды, але гэтак склалася, што ні настаўнікі, ні бацькі не надавалі гэтаму значэння, ніхто мяне не накіроўваў у мастацкую школу. Пасля заканчэння Гайнаўскага агульнаадукацыйнага ліцэя вырашыла я вучыцца на медсястру. Два гады вучылася ў Кракаве, потым у Варшаве ў Настаўніцкай студыі медыцынскіх школаў. У 1976 годзе выйшла замуж за лекара Сяргея Тарасевіча з Белавежы. Неўзабаве прыйшлі на свет нашы дзеці — Радаслаў і Анна. Я была жонкай, маці, працавала і яшчэ вучылася на санітарным аддзяленні Медыцынскай акадэміі ў



*Тамара Тарасевіч ля сваёй ка рціны.*

Вроцлаве. Вядома, што будучы ў такім калаўроце, я не магла нават марыць пра маляванне, хаця пастаянна мяне да малявання цягнула. Пасля атрымання мной дыплома магістра, заняліся мы з мужам будовай уласнага дома. Каб падзарабіць, паехалі на кантракт у Лівію. Вярнуліся ў 1987 г. з нейкімі грашыма.

— І тады мая жонка, — уваходзіць у словы Сяргей Тарасевіч, — пачала дзяліцца са мною думкай, што мо цяпер яна пачне маляваць? Ну што ж, калі гэтак хочаш, дык малюй, сказаў я. Купілі мы фарбы, заказалі ў столяра падрамнікі і... задумаліся! Як жа тут і ад чаго пачаць? Папрасіў я наканец знаёмага мастака Мікалая Валкавыцкага, каб нешта падказаў. Ён зрабіў гэта ахвотна, хаця без большай веры ў мастацкія здольнасці Тамары.

Я ўжо ведаю, што калі спадар Валкавыцкі прыйшоў пабачыць вынік Тамарыных змаганняў з палотнамі і фарбамі — вокамгненна схапіўся за галаву і сказаў:

— Дзяўчына, нясі ў царкву пук свечак і дзякуй Богу за талент! Цябе дакрануўся Божы палец!

Гэтак вось наступіла вывяржэнне незвычайнага таленту

(Працяг на стар. 5)

# НА ЗВОН СВЯТОЙ САФІІ

Беларускі культурна-этнічны абшар запаўняецца і тут і на Беларусі ўсё новымі і новымі выданнямі, публікацыямі, часопісамі. Выдатна прыкладае да гэтага сваю руку беларуская эміграцыя з амерыканскага кантыненту.

Пару добрых гадоў таму назад у некалькіх мілях ад Кліўленда ў невялікім прыгарадзе Стронгсвіл яны прыдбалі прыгожую дзялянку зямлі. Пабудавалі на ёй палац, які стаўся іхнім культурна-асветніцкім цэнтрам і якому далі імя „Полацак“.

І вось гэты цэнтр, у якім у мінулым годзе праводзілася 19-ая Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі (а фактычна сусветная сустрэча беларусаў), зусім нядаўна парадаваў нас яшчэ адным пачынам — выпусціў у свет першы нумар свайго часопіса, названага таксама „Полацак“. Рэдакцыйная калегія, узначаленая Святланай Белай і Міхасём Белямуком, паставіла перад сабой шляхетную мэту „апчадна зберагаць, вывучаць і перадаваць духоўнае багацце нашых продкаў тым, хто прыйдзе нам на змену“ ды прытым „паслужыць справе ўзмацнення сувязяў беларускай эміграцыі з Бацькаўшчынай“. Гэту важкую ініцыятыву ўжо падтрымалі з беларускага мацярыка сябры мінскага гарадскога клуба „Спадчына“. Яны пішуць у сваім лісце: „Мы ведаем, што Вы, беларуская эміграцыя, самаахвярная і самаахвярна працавалі на ніве грамадскай, культурнай і навуковай, бо Вы хацелі і на чужыне застацца беларусамі. Створаная Вамі спадчына не можа загінуць, яе трэба зберагчы“.

Паколькі ў 1990 годзе 19-ая Сустрэча беларусаў супала з святкаваннем 500-ай гадавіны з часу нараджэння Францішка Скарыны і 150-ай гадавінай з дня нараджэння Францішка Багушэвіча, то і гэтыя тры падзеі знайшлі найбольшае адлюстраванне ў першым нумары часопіса „Полацак“ (між іншым, Андрэя Белага „Медальерны вобраз Скарыны“, Уладзіміра Содаля „Купэлянскія амерыканцы“). Дапаўняюць першы нумар матэрыялы, размешчаныя ў іншых раздзелах, такіх як „Наша гісторыя“, „Далёкае і блізкае“, „Пад бел-чырвона-белым сцягам“, „Карані нашага роду“, „Родна слова“, „Згукі Бацькаўшчыны“.

Праектаваў вокладку часопіса вядомы ў Мінску мастак Міхась Карпук.

Не змоўкне звон святой Сафіі!

**Ян Чыквін**







### ГАРАЧЫ ПЛЕНУМ

**Змешчаны ў „Ніве“ № 14 ад 7 кастрычніка гэтага года артыкул В. Лубы патрабуе дапаўнення. Няма патрэбы затойваць дыскусію на пленуме, калі меў ён адкрыты характар, а ўсе выказванні запісвала Беластоцкае радыё для беларускіх перадач. У зале таксама рабіліся запісы. У чытачоў „Нівы“ магло ўзнікнуць уражанне, што гарачую атмасферу выклікалі неабгрунтаваныя абвінавачанні штатных працаўнікоў ГП Галоўнай рэвізійнай камісіяй. Сапраўды закідаў і прапаноў пастаўлена было камісіяй вельмі многа, але гэтага патрабавалі абставіны.**

**У першай палове снежня мінулага года ГРК правяла кантроль дзейнасці БГКТ і перадала Прэзідыуму ГП змястоўны пратакол. Да пленума Прэзідыум не разгледзеў ніводнай заўвагі. У дзень пленарнага пасяджэння камісія ізноў сабралася і прыняла змест выступлення, якое мела зрушыць зарысаваны ў Таварыстве і вакол яго маразм. Так не сталася.**

**Спачатку ГРК паведаміла сабраных аб сваіх унутрыарганізацыйных зменах. Затым — аб патрэбе аналагічных змен у Прэзідыуме ГП з увагі на недысцыплінаванасць некаторых членаў і яго слабенькую здольнасць да рашэнняў. Гаварылася таксама, што абсяг працы Таварыства малы і ў сувязі з гэтым дастаткова было б адной кіруючай штатнай адзінкі. Другую трэба выкарыстаць для іншай дзейнасці. Прапанова гэта таксама не знайшла водгуку.**

**Нельга згадзіцца са сцвярджэннем В. Лубы, што ў пратаколе ГРК пералічваліся недахопы. Спачатку былі пазітыўна ацэнены асноўныя дасягненні ў галіне аматарскага руху, пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы і пашырэння супрацоўніцтва з БССР.**

**Асаблівая ўвага звернута была сапраўды на недахопы. Вось некаторыя з іх.**

**— Прэзідыум ГП не мае гадавых або іншых планаў працы і не робіць гадавых справаздач аб дзейнасці. Апрацоўваюцца фрагменты фінансавага плана для Міністэрства культуры; існуюць гадавыя пагадненні з некаторымі ўстановамі ў Савецкай Беларусі. Няма таксама пратаколаў з пасяджэнняў Прэзідыума ГП за 1990 год. Камісія і будучыя даследчыкі пазбаўлены ад зараз магчымасці выконвання параўнаўчых аналізаў дзейнасці арганізацый.**

**— Занядбаны кальпартаж „Беларускіх календароў“. У 1989 г. прададзена 37 прац. тыражу, у 1990 г. — усяго 24 прац. Страты — 52 млн. злотых. У гэтым годзе каляндар выйшаў у палове сакавіка, ізноў трэба прадбачваць страты. Адказнага за гэта няма.**

**— Закупленыя Таварыствам новыя аўтобус „Ельч“ і мікробус „Ныса“ не выкарыстоўваюцца. Трэба вырашыць, ці гэтыя транспартныя сродкі маюць служыць статутовай дзейнасці, ці прыносіць даход. Зараз даюць толькі страты.**

**— Будынак ГП не выкарыстаны для патрэб актывізацыі асяроддзя і атрымлівання даходаў. Прапалі вечарыны, універсітэт моладзі, сустрэчы пенсіянераў, юбілейныя акадэміі, кіно, выстаўкі. Беласток з'яўляецца зборышчам каля паловы беларускага насельніцтва ў Польшчы, у тым ліку большасці інтэлігенцыі і ўсіх беларускіх арганізацый. Патрэбы працы аграмадныя.**

**— ГРК прааналізавала паводле анкетаў працу аддзелаў БГКТ і прыйшла да вываду, што назіраецца занепад іх дзейнасці (вылучаючы хіба адзін Гайнаўскі аддзел, узяднаны энтузіязмам пабудовы Беларускага музея). Аналагічны вобраз (за невялікімі выключэннямі) малюецца і ў гуртках. Адной з важных прычын быў дагэтуль недахоп фінансавых сродкаў на службовыя падарожжы. Была аднак машына, якая паміж 1.І. і 30.ХІ.1990 г. выкарыстоўвалася 91 раз, у тым ліку толькі адзін раз штатным працаўніком Бельскага ад-**

**(Працяг на стар. 4)**

 




(Працяг са стар. 3)

**дзела. Не было ніякай абслугі ні аддзелаў, ні гурткоў. Сорамна проста інфармаваць аб ступені аплочвання ў апошніх гадах членскіх складчын. На пленуме выявілася, што сам сакратар ГП Віктар Стахвюк не з'яўляецца членам БГКТ ад 1975 года.**

**— Занядбана праца грамадскіх камісій ГП. Вядома толькі, што па адным пасяджэнні адбылі культурная, асветы і выдавецкая камісіі. Аб іншых — вестак няма.**

**— Паўгода таму назад ГРК патрабавала ўнармаваць супрацоўніцтва БГКТ з іншымі беларускімі арганізацыямі, калі іх дзейнасць зближана да статутовых заданняў таварыства. Асабліва адносілася гэта сцвярджэнне да пачынанняў сакратара ГП Віктара Стахвюка, які (цытую) „будучы штатным членам Прэзідыума надмерна заангажаваўся ў дзейнасць БДА і перастаў займацца статутовай працай БГКТ. Гэта і Камісіі і яго ўласная ацэнка“. Незразумела, чаму В. Луба абмежаваўся ў артыкуле толькі першай часткай сказа, якая кранае грамадскае заангажаванне. Нас цікавіць праца ў БГКТ.**

**Падзеі ў апошніх чатырох месяцах паказалі, што вакол Беларускага таварыства стварылася ўжо грозная атмасфера палітычнага іграння, якою кіруе БДА, не перабіраючы ў формах. Мы заўсёды толькі даведваемся аб нейкіх пасяджэннях, шкодных ініцыятывах, даносах на БГКТ да цэнтральных уладаў па часе, а не непасрэдна ад беларускай партыі. Здаецца, што зараз такая ігра непатрэбна. Яна раней была абгрунтавана і ад яе залежала нават існаванне арганізацыі. Цяпер наадварот — улады хацелі б утрымаць Таварыства, аказваць яму невялікую фінансавую дапамогу з увагі на поспехі Усходняй Палітыкі. Я асабіста адназначна ацэньваю першую спробу нечаканага склікання 20 студзеня 1991 г. В. Стахвюком пасяджэння прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацый у Польшчы дзеля стварэння Беларускай рады як спробу ліквідацыі БГКТ. Рада гэта на базе маёмасці і датацыі Таварыства мела кіраваць працай у беларускім асяроддзі. На яе чале стаў бы канцлер з разбудаванай адміністрацыяй. Ініцыятар пасяджэння адразу апынуўся ў антыбэгэкатоўскай групе. Будучую раду старшыня ГП Аляксандр Баршчэўскі назваў „шапкай“, а пасля ўзгаднення становішча з прысутнай часткай членаў Прэзідыума згадзіўся на яе кансультатыўны характар. Але супярэчлівасць поглядаў была настолькі вялікая, што большасць прысутных з Прэзідыума пакінула пасяджэнне.**

**Праз месяц другі сход у гэтай жа справе ў „Ніве“ быў спробай з'яднання. Але вось ізноў маленькі эпізод з дыскусіі. Я. Максімюк: „...не ідзе толькі аб грошы, давайце супольна нешта рабіць“. А на гэта В. Стахвюк: „Ідзе, менавіта, аб грошы“, г.зн. адабраць іх у Таварыства на карысць Беларускай рады. Так паводзіць сябе ў адносінах да сваёй установы штатны працаўнік не можа. Атрымаў ён ужо многа заўваг на пасяджэннях Прэзідыума. Нічога не змянілася. Усё гэта разам узятае прымусіла ГРК унесці пастулат наконт вызвалення намесніка старшыні Аляксандра Іваноўскага і сакратара Віктара Стахвюка з займаных пасадаў. Гаварылася ў ім, што на кіруючых пасадах памылкова апынуліся асобы, якія не знайшлі супольнасці ў працы. У атмасферы недаверу кіраваць грамадскай арганізацыяй яны не патрапілі.**

**Матывы стаўлення на пленуме вотум даверу старшынёю Аляксандрам Баршчэўскім незразумелыя. Нельга сказаць, што яго самаахвярная грамадская дзейнасць недаацэньваецца. і падмацоўванне ўнутрыарганізацыйнага аўтарытэту ў канцы склікання было непатрэбнае. У такіх абставінах пленум адмовіўся разглядаць кадравыя справы.**

**Пленум не прыняў таксама прапановы ГРК. Вось яны:**

**1. Стварыць Раду Беларускага му-**

(Працяг са стар. 7)




*Замкавая гара ў Драгічыне. Малюнак У. Петрука.*

# ТАДЭУШ МАЗАВЕЦКІ Ў БЕЛЬСКУ

скага забору палякі“.

Найбольш пытанняў датычыла цяжкога становішча ў сельскай гаспадарцы і эканамічнай палітыкі ўрада Мазавецкага. Т. Мазавецкі сказаў, што немагчыма змяніць карэнным чынам палітыку адносна сельскай гаспадаркі — сяляне не павінны спадзявацца дзяржаўных датацыяў, бо няма грошай. Датацыі магчымы на Захадзе, дзе ў сельскай гаспадарцы працуе 5—6 працэнтаў насельніцтва (у Польшчы — звыш 20%). Ці Дэмакратычная унія бачыць патрэбу карэктураў у эканамічнай палітыцы? Трэба ўлічыць, што пры агульным накірунку на прыватызацыю яшчэ доўгі час будуць існаваць дзяржаўныя прадпрыемствы. Па-другое, трэба стварыць сістэму, паводле якой узнікалі б малыя і сярэднія прыватныя прадпрыемствы. У сельскай гаспадарцы, дзе праблемай нумар адзін з'яўляецца збыт прадуктаў, трэба стварыць механізм узнікання канкурэнтных прадпрыемстваў, якія скуплялі б сельскагаспадарчую прадукцыю. Што Т. Мазавецкі думае аб так званым „прыспешванні“ ў польскай эканоміцы? Гэта быў адно палітычны лозунг у кампаніі Валэнсы, скіраваны супроць палітыкі ўрада Мазавецкага. Зараз ніхто „прыспешваць“ не думае, бо гэта немагчыма. Палітыка цяперашняга ўрада з'яўляецца па сутнасці працягам палітыкі Мазавецкага. Аднак жа несумненна тое, што прэзідэнцкая кампанія і лозунг „прыспешвання“ падарвалі зразуменне і давер людзей да эканамічнай палітыкі як урада Мазавецкага, так і Бялецкага.

Ці падаткавыя льготы для заходніх фірмаў у Польшчы і магчымасць трансферу даходаў за мяжу не з'яўляюцца рабункам польскай гаспадаркі? Не, бо інакш і немагчыма ажывіць эканоміку.

Ці трэба навучаць рэлігію ў школах? Так, на прынцыпах добраахвотнасці.

Што з законам аб забароне абортаў? Т. Мазавецкі выказаўся за прыняццё такога закону, падкрэсліваючы прытым, што пытанне адносна пакарання за яго парушэнне з'яўляецца надзвычай складаным.

Ці Польшчы патрэбны закон аб дэкамунізацыі. Дэмакратычная унія выступае супроць такога закону, уважаючы прытым, што вінаватыя ў злачынствах эканамічна-палітычнага характару павінны быць прыцягнуты да адказнасці на судовай дарозе.

Бельскае спатканне наўрад ці рассеяла расчараванне і зняверанасць прысутных у сённяшняй эканамічнай сітуацыі краіны. Т. Мазавецкі, зрэшты, не скрываў, што лёгкага шляху дапераду пакуль што няма. Таму Дэмакратычная унія пазбягае абяцанак і дэмагогіі ў сваім палітычным змаганні, бо яны, у сваёй істоце, базуюцца на пагардзе да людзей.

✲

У значна меншым гурце і больш памяркоўнай атмасферы адбылося спатканне Т. Мазавецкага і ягоных супрацоўнікаў з дзеячамі Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, арганізаванае Тэрытарыяльнай радай БДА ў Бельску. Выступленні з беларускага боку мелі перш за ўсё інфарматыўны характар, што тычыцца эканамічнай і палітычнай сітуацыі беларусаў Беласточчыны. Дзеячы БДА прадставілі таксама агульную сваю ацэнку цяперашняй палітыкі дзяржавы ў дачыненні да нацыянальных меншасцяў, сігналізуючы штораз болей відавочны інструменталізм у трактоўцы тых жа меншасцяў (у кантэксце палітычных дачыненняў Польшчы са сваімі суседзямі) і ўсё яшчэ неаслаблую неталерантнасць большасці. З задавальненнем абодва бакі адзначылі першыя крокі дзеячоў БДА і беластоцкай Дэмакратычнай уніі дзеля наладжання польска-беларускага дыялогу на ўзроўні палітычных структураў.

**Ян Максімюк**

# ПРАГРАМА

**X МІЖНАРОДНАГА ФЕСТЫВАЛЮ ЦАРКОЎНАЙ МУЗЫКІ — ГАЙНАЎКА '91 (16—19.05. 1991 г.)**

**16 мая (чацвер)**

— Хор праваслаўнага прыхода з Нараўкі,
— Мужчынскі хор Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі з Варшавы,
— Маладзёжны хор праваслаўнага прыхода св. Тройцы з Гайнаўкі,
— Мужчынскі камерны хор „Акафіст“ з Масквы (СССР),
— Cappella Male Russian Chorus са Злучаных Штатаў Амерыкі.

**17 мая (пятніца)**

— Хор праваслаўнага прыхода св. Міхаіла Арханёла з Бельска-Падляшскага,
— Мужчынскі хор „Ісон“ Святамікалаеўскага сабора з Беластока,
— Хор Праваслаўнай мінскай духоўнай семінарыі пры Жыровіцкім манастыры з Жыровіч (БССР),
— Хор душпастырства Беластоцка-Гданьскай епархіі,
— Хор Спаса-Праабражэнскага сабора з Выбарга — Ленінград (СССР),
— Хор Святатроіцкага сабора з Гайнаўкі,
— Камерны хор „Continuo“ з Гданьска.

**18 мая (субота)**

— Маладзёжны хор Святадухаўскага прыхода з Беластока,
— Хор душпастырства праваслаўнай моладзі Святамікалаеўскага сабора з Беластока,
— Ансамбль стараруcкай музыкі „Сірын“ з Масквы,
— Мужчынскі хор „Cantilena“ з Вроцлава,
— Хор Пачаеўскай лаўры,
— Cappella Musicae Antiquae Orientalis з Познані,
— Дзяржаўны хор беларускага радыё і тэлебачання з Мінска.

Усе канцэрты пачынаюцца а 16 гадзіне ў Святатроіцкім саборы ў Гайнаўцы.

**19 мая (нядзеля)**

— гадз. 13.00 — вынікі фестывалю і першы гала-канцэрт у Гайнаўскім доме культуры,
— гадз. 17.00 — другі гала-канцэрт у Дзяржаўнай філармоніі ў Беластоку.

✲

Фестывалю будуць спадарожнічаць канцэрты калектываўудзельнікаў у Беластоку, Бельску-Падляшскім, Сямяцічах, Чаромсе, Лапах, Драгічыне, Нарве, Нараўцы, Белавежы і іншых мясцовасцях.



 

## ТАМАРА ТАРАСЕВІЧ — ВЫВЯРЖЭННЕ ТАЛЕНТУ

(Працяг са стар. 3)

Тамары Тарасевіч (дзявочае прозвішча — Рыгаровіч). Заахвочаная адабраючымі словамі прафесіянальнага мастака, шчыра ўзялася яна за маляванне. Яе муж вырашыў, што адгэтуль развіццё таленту жонкі менавіта будзе ў іх справай найважнейшай. Праз няцэлых два з паловай гады Тамара намалявала каля 70 абразоў. Некалькі з іх апынулася ўжо за мяжой, некалькі параздавала знаёмым. Але большасць захоўвае ў сябе дома. З імі пазнаёмілася пару вядомых у дзяржаве мастакоў — яны цалкам пацвердзілі ацэнку, дадзеную М. Валкавыцкім.

Палотны Тамары глядзеў і я. Шчыра прызнаюся, што яны кінулі мяне на калені. Тамара памайстэрску валодае перш-наперш колерамі. Проста не хочацца верыць, што яна ніколі не вучылася мастацтву.

Малюе пераважна прыроду. Тую прыроду, якая яе акружае, белавежскую! І трэба сказаць, што, як ніхто дагэтуль, здолела злавіць яе „душу". Відаць, што Тамара проста адчувае прыроду сэрцам. Яе палотны аж кіпяць своеасаблівым настроем, таямнічасцю. Яны, здаецца і ўцягваюць, прымушаюць раздумоўваць, дашукоўваюцца чагосьці, што на першы позірк не існуе, а толькі ёсць прадчуванне гэтага. Палотны Тамары здзіўляюць і тым, што на іх знаходзіцца шмат такіх дэталяў, якіх звычайна не прыкмячае нат вопытны знаўца пушчы. А яна ж толькі рэдка заглыбляецца ў белавежскія нетры, пераважна з мужам за грыбамі. Якім жа дасканалым тады назіральнікам трэба быць! Дык ці гэта толькі справа ў назіранні?

Я асабіста перакананы, што раней ці пазней палотны Тамары пачнуць трыумфальны паход па галерэях не толькі Польшчы.

**Пётр Байко**

Фота Міраслава Бушко

## Што і чаму?

(Працяг са стар. 2)

рэгіёне і т.д. Шматразовыя выказванні Тадэвуша Мазавецкага ды ягоных супрацоўнікаў у час дыскусіі сведчылі аб зразуменні імі ды прыхільнасці да высунутых пастулатаў (падрабязнасці з пабыўкі Т. Мазавецкага ў Бельску глядзі ў артыкуле на стар. 1).

Семнаццатага красавіка старшыня Ваяводскага Сейміка праф. Эмануэль Трэмбачоўскі запрасіў кіраўніцтва Беларускага дэмакратычнага аб'яднання на гутарку, прысвечаную галоўным умовам гарманійнага сужыцця паміж польскім і беларускім грамадствамі на Беласточчыне. У гутарцы прынялі ўдзел Ян Максімюк, Пятро Юшчук, Сакрат Яновіч. Высветлена шэраг прыкрых непаразуменняў і вырашана працягваць кантакты.

Семнаццатага і васемнаццатага красавіка наведала Беласток, Супраслю, Бельск, Гайнаўку і Белавежу дэлегацыя французскіх бізнесменаў, Ноэль Гале-Лалан і Леанід Шыманец, сын беларускіх эмігрантаў (адзін з удзельнікаў менавіта „Белавежы '90"). Увага гасцей кіравалася, натуральна, на т.зв. Усходнюю Сцяну, што і было акцэнтавана ўдзелам у іх перамовах з ваяводам, бурмістрамі, войтамі адначасна і прадстаўнікоў Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў асобах Яўгена Альховіка, Юркі Раманюка, Васіля Ляшчынскага, Сакрата Яновіча.

Чакаецца прыезд у арганізаваную Злучнасць гмінаў „Нарва" аж цэлай групы амерыканскіх ды эміграцыйна-беларускіх бізнесменаў, якіх рыхтуе наш дзеяч Міраслаў Целушэцкі.

**Сакрат Яновіч**

## НАШЫ КАРАНІ

### VIII. ВЕЛІЧНЫ АКТ

Прыняццё Таінства Святога Хрышчэння вялікім князем Уладзімірам у студзені 988 года на крыштальнай рачулцы Стугне ў траскучыя маразы на свята Богаяўлення было надзвычайнай падзеяй, але гэта быў толькі першы крок на нялёгкім і доўгім шляху хрысціянізацыі Усходняй Славяншчыны.

Высланыя Уладзімірам у Візантыю магутныя дружыны славянскіх вояў разбілі і расцярушылі армію ўзурпатара Бардаса Фокі і ўратавалі жыццё і трон імператару Васілію. Той шчодра заплаціў кіеўскаму войску за паслугі і як мага хутчэй адправіў яго дадому, нават і не падумаўшы выконваць дадзеныя Уладзіміру абяцанні дапамагчы далучыцца ўсходнім славянам да хрысціянскага свету ды жаніцьбою князя кіеўскага з царэўнай Аннай увесці Кіеўскую Русь і яе князя ў сям'ю вялікіх хрысціянскіх дзяржаваў. Трэба было са зброяй у руках змагацца за тое, каб вера Хрыстова стала духоўным здабыткам Усходняй Славяншчыны. І Уладзімір рушыў на чале сваіх дружынаў на візантыйскі горад Херсон (Корсунь) на Крыме, здабыў яго і такім чынам прымусіў імператара Васілія парадніцца з ім, кіеўскім князем, і дапамагчы ахрысціць яму дзяржаву.

Разам з пераможнай дружынай на чале з князем і царэўнай прыбыло ў Кіеў корсунскае і канстанцінопальскае духавенства, былі прывезены іконы, кнігі Святога Пісання, літургічнае начынне. Ва Усходняй Славяншчыне пачалося адраджэнне веры Хрыстовай: знішчаліся язычаскія куміры, трацілі паваг у і ўплывы розныя жрацы і шаманы, радаваліся хрысціяне, што суджана ім дажыць гэтага светлага часу.

Па закліку вялікага князя ўвесь Кіеў на свята Успення Багародзіцы ўвайшоў у шырокую і неглыбокую раку Пачайну, што побач гарадскіх сцэнаў упадае ў быстры, глыбокі і небяспечны Днепр. У акце прыняцця Таінства Хрышчэння ўдзельнічалі не толькі дагэтуль няхрышчаныя, але таксама хрысціяне, яны тлумачылі сваім суродзічам словы свяшчэннікаў, павучалі, як належыць паводзіць сябе падчас свяшчэннага акта, маліліся за сваіх блізкіх.

Стаяла, мабыць, ціхая і сонечная пагода — такая, якая толькі бывае на ўсходнеславянскіх землях у канцы лета, у самую поўню спеласці. Ласкавая цяплынь і ўрачысты спакой. Неба разам з чалавекам святкавала велічную ўрачыстасць перамогі святла над цемрай, дабра над злом. Духавенства здзяйсняла свяшчэнны абрад, народ схіліўся ў паклоне. Княгіня Анна ўпала на калені і шаптала малітву ўдзячнасці за споўнены абавязак. Князь Уладзімір, стоячы побач на высокім беразе, натхнёны і ўрачысты, кіраваў позірк па-над галовамі падданых удалеч, дзе на далягліздзе, у дрыготкім мроіве віднеліся зубчатыя вяршаліны лясоў, а за імі прасціраліся тыя нязмераныя і неабдымныя прасторы зямель, што таксама чакалі такога ж, як сёння ў Кіеве, велічнага акта адраджэння і ўзвышэння хрысціянства, Таінства Хрышчэння.

**Мікола Гайдук**



## РАДА БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ

(Працяг са стар. 1)

выпрацавалі здавальняючую іх версію статута Рады беларускіх арганізацыяў. Ад гэтага часу ход далейшых падзей дэтэрмінавала ўжо фармалістыка. Прадстаўнікі арганізацыяў, якія працавалі над рэдакцыяй статута Рады, прадставілі канчатковую яго версію кіруючым органам сваіх арганізацыяў, якія прымалі пастановы аб уступленні ў Раду беларускіх арганізацыяў.

12 красавіка 1991 года ў сядзібе Галоўнага праўлення БГКТ прайшло першае пасяджэнне Рады беларускіх арганізацыяў, у якім прыняло ўдзел 11 прадстаўнікоў ад пяці арганізацыяў, якія вырашылі прыступіць у Раду. Вось гэтыя арганізацыі ў алфавітным парадку: Беларускае аб'яднанне студэнтаў, Беларускае грамадска-культурнае таварыства, Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры, Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа". Першае пасяджэнне Рады было прысвечана выбару старшыні. Сябры Рады беларускіх арганізацыяў выбралі сваім старшынёю Пятра Юшчука — юрыста па прафесіі, сябру Беларускага дэмакратычнага аб'яднання.

18 красавіка 1991 года таксама ў сядзібе ГП БГКТ прайшло другое пасяджэнне Рады. Старшыня Пятро Юшчук прадставіў сябрам Рады сваіх кандыдатаў ва Управу — Віктара Шведа, Мікалая Аляксеюка і Мікалая Сычэўскага. У тайным галасаванні сябры Рады выказалі гэтым асобам сваю акцэптацыю. У далейшым выступалі прадстаўнікі паасобных арганізацыяў, што ўваходзяць у Раду, прадстаўляючы паводле прыярытэтаў праграмы дзейнасці сваіх арганізацыяў. З гэтага стварылася праграма дзейнасці Рады беларускіх арганізацыяў. Сябры Рады найбольш пільнымі пытаннямі прызналі справу Цэнтра беларускай культуры ды выбарчую кампанію, а ў прыватнасці асобу яе арганізатара і каардынатара. З фармальных спраў — дапаўненні ў статут Рады. Гэтыя пытанні маюцца разглядацца на чарговых пасяджэннях. На другім пасяджэнні Рады быў выбраны яе прэсавы прадстаўнік — стаў ім аўтар гэтага артыкула.

Дзейнасць Рады беларускіх арганізацыяў набывае размах.

**Аляксандр Максімюк**

Фота аўтара



*Першае пасяджэнне.*

# Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў

### 13. ІЗНОЎ У НЬЮ-ЙОРК!

Пасля з'езда ў Кліўлендзе, перад самым адлётам у Нью-Йорк (бо Данчык з бабуляй Янінай Каханоўскай прыляцелі і адляцелі самалётам), Данчык падыйшоў да мяне і шапнуў: „У Кліўлендзе доўга не затрымлівайся, як з'ездзіце ў Чыкага, адразу вяртайся ў Нью-Йорк! Мы ж з Раяй Станкевіч дасталі білеты ў аперэтку на „Фантома", якія наогул трэба купляць на два гады раней. Ты залічана ў наш спісак!".

Я вельмі ўцешылася — была ж толькі госцем, і гаспадары маглі мною распараджацца. Але тым больш ахвотна паддавалася я ім, што з кожнага боку мне аказвалі неспадзявана шмат цяпла і сэрца.

І так, з Чыкага я вырашыла вяртацца 10 верасня ў Нью-Йорк з тым жа чыкагскім „экіпажам" — з Юркам Хадыкам, Сяргеем Панізнікам, Галяй Прыма і Маргарытай Пяровай. На некалькі гадзін заехалі па дарозе ў Кліўленд, каб узяць яшчэ кагосьці ў наш „вэнік".

Я хадзіла па „Полацку" і раздумвала. У апошнюю ноч мне прысніўся страшэнны сон. Быццам бы сваяк, які захварэў, калі я ад'язджала з дому, ляжаў у адкрытай труне, страшэнны, гніючы... Сон, здалося мне, няўхільна прадвяшчаў смерць. Чамусьці я ўзяла гэта ўсё да сябе. Чалавек думае, што калі ад'ехаў ад свайго дому, дык чакаюць яго адно няшчасці. „Ну, калі табе такое прыснілася, дык сядай спераду і пільнуй Славіка, каб не заснуў! — смяяліся дзяўчаты, — а мы будзем ззаду спаць! Перад намі ж цэлая ноч".

І вось прыстойны Славік Карніловіч вязе нас пазычаным на нашы патрэбы „вэнам" (нешта накшталт нашай „нысы"), ды толькі гэта бліскучая, цёмнасіняя экстра-машынка надта сучаснай формы. У Амерыцы можна пазычыць любую машыну любой велічыні ў любы момант і на любы час. Славік, хаця ў Амерыцы ўсяго паўгода і з мовай пакуль мае яшчэ клопаты, то ўжо амерыканцаў разумее і ахвотна пераймае іх стыль жыцця. З любасцю пераключае ў машыне розныя кнопачкі: то адчыняе вокны, то зачыняе іх і ўключае „эйр кандышэн" — кліматызацыю, то забяспечвае дзверцы, то шукае добрую праграму ў тэлевізары, а пасля ўжо толькі змяняе магнітафонныя стужкі з Данчыкавымі запісамі.

Данчык сваім мілым голасам спявае пра ледзь заўважальнае, дрыготкае „бярозкі дзіўнае святло", а гукі музыкі напаўняюць здаецца, цэлае наваколле. На момант заплюшчваю вочы і бачу, як музыка набірае рэальных кшталтаў, магутнее, высокай хваляй залівае Данчыкаў Манхатан...

А Славік з самаадданнем адкрывае нам Амерыку. Нешта ў машыне захрабатала. Я спалохана глянула на нашага маладога шафёра: няўжо такая навенькая машынка сапсавалася?! Славік паблажліва ўсміхаецца: не, гэта ён пераехаў на аўтамагістралі жоўтую лінію і занадта высунуўся на пабочыну. Калі б давялося задрамаць — адразу б прачнуўся, кажа Славік. А мне дык здалося, што такі хробат абудзіў бы і мёртвага!

Славік усё адкрывае нам Амерыку. Усё яшчэ адкрывае яе для сябе...

Я так самаахвярна пільнавала цэлую ноч гэтага хлопца, каб не заснуў, што дазволіла сабе ўздрамнуць толькі перад самым Нью-Йоркам, ужо тады, калі Славік праспаўся паўгадзінкі на паркінгу, а я ж ведала з вопыту, як шмат сілы дадаюць шафёру такія „паўгадзінкі"...

Вера Бартуль, калі ад'язджала са з'езда ў Кліўлендзе дахаты ў Нью-Йорк, вельмі непакоілася, як я дабяруся да іх. Доўга і дакладна тлумачыла мне, як, з якога месца на аўтобусным вакзале будзе мой аўтобус у Манхасэт (на выпадак, калі б я не змагла скантактавацца з імі па тэлефону).

А нас везлі проста да Андрусішыных, Данчыкавых бацькоў. Ды толькі як да іх трапіць у гэтым бясконцым Нью-Йорку?! Дапамог аналітычны розум прафесара-фізіка Юркі Хадыкі. Як толькі мы апынуліся на 8-ай авеню, ужо ён ведаў, як ехаць далей. І хаця пакружылі здорава, бо на 2-ую авеню ўехалі з ін-



*Данчык у сваім „офісе".*




### ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ „НІВЫ"!

1 мая (19 красавіка па старому стылю) 1991 г. адбылася значная падзея ў гісторыі нашай Акадэміі навук — 110-я гадавіна з дня нараджэння Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага — буйнага беларускага гісторыка, грамадскага і палітычнага дзеяча БССР.

Ён займаў пасады кіраўніка Наркамата земляробства і Наркамата асветы, старшыні Інстытута беларускай культуры, а з 1 студзеня 1929 г. — першага прэзідэнта Беларускай Акадэміі навук. З яго імем звязаны перыяд адраджэння нацыі, які атрымаў гістарычны тэрмін „беларусізацыя".

У. М. Ігнатоўскі напісаў болей за 30 прац, найбольш буйныя з якіх „Кароткі нарыс гісторыі БССР", „1863 год на Беларусі", „Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX стагоддзя".

Усевалад Макаравіч многа зрабіў, каб у нашым краі адчыніліся дзверы школ, бібліятэк, тэатраў, клубаў, навуковых устаноў. Вакол яго гуртаваліся зоркі беларускай культуры і навукі — Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Гаўрыла і Максім Гарэцкія, Сцяпан Некрашэвіч і шэраг іншых прадстаўнікоў інтэлігенцыі.

На жаль, з канца 20-х гадоў па ўсёй краіне пачалася барацьба з так званымі „нацдэмамі" і член урада рэспублікі і ЦК КП(б)Б, вядомы вучоны стаў „контррэвалюцыянерам, нацдэмаўшчыкам і кулацкім агентам". Не маючы магчымасці абараніць сваё імя, У. М. Ігнатоўскі 4 лютага 1931 г. скончыў жыццё самагубствам.

Усевалад Макаравіч не прайшоў праз паказальныя судовыя працэсы і канцлагеры, але жонка была пакарана васьмігадовай катаргай, а два сыны расстраляны. У жывых застаўся старэйшы сын, які своечасова з'ехаў з Беларусі. Зараз у Мінску жыве яго дачка, унучка Я. М. Ігнатоўскага. Зразумела, што усе гэтыя жахі і вайна не дазволілі нічога захаваць на памяць аб славутым дзеду.

У. М. Ігнатоўскі нарадзіўся ў вёсцы Такары Брэсцкага ўезда Гродзенскай губерніі (зараз Камянецкі раён Брэсцкай вобласці) у сям'і настаўніка вясковай царкоўна-прыхадской школы. Праз некаторы час бацька прыняў сан святара. Па некаторых звестках сям'я неўзабаве пераехала ў Быцень.

У першую сусветную вайну жыхары вёскі Такары былі эвакуіраваны на ўсход. Зараз там жывуць зусім другія людзі, якія амаль нічога не ведаюць пра гісторыю вёскі і пра свайго вядомага земляка. У Такарах ёсць Міхайлаўская царква (1816 г.) і дом святара ў вельмі трухлявым стане. Можа ў ім і жыла сям'я Ігнатоўскіх? А магчыма, што яны жылі ў Такарах, якія зараз знаходзяцца на польскім баку? Унучка У. М. Ігнатоўскага расказвала нам, што яе бацька калісьці гаварыў пра нейкіх сваякоў, якія жылі ў Польшчы. Можа, хто і зараз жывы?

Мы звяртаемся да Вас, браты-беларусы з Беласточчыны, за дапамогай. Будзем удзячны за любую інфармацыю аб Усеваладу Макаравічу Ігнатоўскім.

**Наш адрас: 220072. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР, для Музея гісторыі АН БССР.**

**А. Р. Шчарбакоў,**

Навуковы супрацоўнік Музея гісторыі Акадэміі навук БССР

# ТВАРАМ ДА ВЁСКІ

**(Працяг са стар. 1)**

слабых гаспадарак, вёска апусцілася, засталася без моладзі і здалася на недалёкае забыццё і залясенне.

Не ўсе пагадзіліся з такімі горкімі перспектывамі. Адной з арганізаваных спроб гэтаму задзейнічаць было ўтварэнне гаспадарчай злучнасці беларускіх гмінаў. І ў снежні мінулага года прадстаўнікі злучнасці падпісалі ў Мінску пагадненне, у выніку якога суполкі з Беласточчыны могуць гандляваць з рознымі арганізацыямі Беларусі.

Першай з гэтай магчымасці скарыстала гандлёвая суполка „Пронар" у Нарве. Сама суполка ўтварылася тры гады назад і была першай, якая зарэгістравалася ў Скарбовай управе ў Бельску. Пяць членаў суполкі ўнеслі немалыя грошы, а потым, на працягу гэтых трох гадоў усе зароблены грошы, увесь даход станавіўся капіталам суполкі і ішоў на развіццё гаспадарчай дзейнасці.

Сёння галоўная дзейнасць су-



*Гэтага быка, што стаіць у цэнтры Манхатана, падаравалі Нью-Йорку італьянцы.*

шага, чым трэба было, канца, ад вуліцы, здаецца, 90-ай з чымсьці, а нам жа патрэбна была 6-ая стрыт, неяк трапілі. Неспакушанаму чытачу магу растлумачыць, што фактычна шукаць у Нью-Йорку патрэбную вуліцу зусім няцяжка, калі ведаеш, што ўздоўж ідуць „авеню“ (алеі), а іх перасякае ўпоперак мноства меншых вуліц, якія называюцца „стрыт“. Такім чынам 6-ую стрыт знайшлі даволі хутка. У Нью-Йорку! Уяўляю сабе, як цяжка было б шукаць патрэбную вуліцу ў такім велізарным горадзе, калі б была яна абазначана, як у нас, нейкай назвай ці прозвішчам, а не нумарам. Няхай хто паквапіцца ў нашым Беластоку знайсці сёння новую вуліцу ў новым раёне! Мо дапамагчы ў гэтым мог бы толькі таксіст, бо на паліцыянта тут разлічваць няма чаго.

Юля Андрусішына, маці Данчыка, ужо чакала нас са снеданнем. Памыўшыся, мы з асалодай пасля амаль 900-кіламетровай дарогі расселіся вакол вялікага авальнага стала. І я снедала і адпачывала, чакаючы, пакуль прыедуць па мяне Бартулі.

Усе смяяліся з мяне, што праз той дурны сон я не спала ўсю ноч, а даехалі ж і так шчасліва. Перасталі смяяцца і неяк спахмурнелі, калі я, пазваніўшы дахаты, даведалася, што ў той дзень якраз паміраў мой хворы сваяк, які прысніўся мне аж за акіянам...

Давёз нас Славік надта добра, але ў Нью-Йорку яму не пашанцавала. Што значыць не ведаць горад! Меў завезці Юрку Хадыку і, здаецца, Генадзя Грушавога на самалёт, але завёз не ў той, што трэба, аэрапорт. Ехаць у другі аэрапорт, адкуль адлятаў самалёт у Маскву, было ўжо позна — і так не паспелі б на самалёт. Давялося мінскім гасцям афармляць білеты на наступны дзень.

*(Працяг будзе)*

**АДА ЧАЧУГА**

**Фота аўтара**



*Спадарыня Юля Андрусішына.*




**(Працяг са стар. 4)**

**зея ў Гайнаўцы дзеля выпрацавання напрамку загаспадарання памяшканняў.**

**2. Аднавіць навуковы гурток БГКТ, які рыхтаваў бы матэрыялы ў беларускія календары, „Ніву“ і для семінара на тэму нацыянальнай свядомасці беларусаў.**

**3. Разгледзець на бліжэйшым пасяджэнні Прэзідыума ГП напрамкі гаспадарчай дзейнасці і стварыць праўленні прадпрыемстваў.**

**4. Правесці верыфікацыю кадраў БГКТ з пункту гледжання эфектыўнасці працы.**

**5. Прысвяціць чарговы пленум ГП пытанням „Нівы“, якая адарвалася ад статутовых заданняў Таварыства.**

**6. Увесці ў „Ніве“ „Рэлігійную старонку“ як сталую форму супрацоўніцтва з праваслаўем.**

**Аб актывізацыі працы БГКТ на пленуме было ўсяго некалькі ціхіх выказванняў. Нават старшыні Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы Кастусю Майсеню, які меў гарантаваны пункт у павестцы дня, давялося гаварыць усяго некалькі хвілін.**

**Каля дзесяці разоў бралі голас Я. Максімюк і М. Бушко (БДА) абы аб чым і абы даўжэй, а вядучы А. Баршчэўскі толькі бараніўся.**

**Канчаткова дэмабілізавала прысутных празмерна доўгае абмеркаванне дэкларацыі БГКТ, асабліва тымі членамі прэзідыума ГП, якія не прысутнічалі на спецыяльным пасяджэнні.**

**Не хапіла часу на адзначэнне 35-годдзя БГКТ, у міжчасе разыйшліся самадзейныя калектывы, а затым і ўдзельнікі пленума.**

**Астаецца загадкай, ці было гэта апошняе, на якім не прымаліся рашэнні, пленарнае пасяджэнне ГП БГКТ, ці толькі першае. Галоўная рэвізійная камісія далей чакае адказу на пастаўленыя Таварыству закіды і прапановы дзеля паляпшэння ягонай працы.**

**У. ЮЗВЮК**

полкі — звязаць тавараабаротам нашых гаспадароў з Беларуссю, гэтым бяздонным на сённяшні дзень рынкам збыту, якога так не хапае сельскай гаспадарцы ў Польшчы. Савецкі рынак прыме кожны тавар, асабліва харчовыя прадукты. І гэта выкарыстоўвае суполка „Пронар“. Ужо гэтай восенню суполка скупіла ад нашых сялян больш 2 тысяч тон бульбы, скупляе і далей і плануе скупку на восень. За бульбу з Беларусі суполка атрымала трактары МТЗ-80 і МТЗ-82 і прадае іх у Нарве, на месцы, на 10 мільёнаў злотых танней, чым іх можна купіць у „Агроме“, ды яшчэ дае амаль палову заплаты на 5 рат, зусім неапрацэнтаваных.

У бліжэйшых планах суполкі (ужо фіналізуецца дагавор) — скупка ад сялян збожжа і таксама высылка яго ў Беларусь. Адтуль атрымае, праўдападобна, штучнае ўгнаенне — салетру і мочнік.

У далейшых планах — скупка трускалак. Суполка ўжо ведае, што можа прадаць трускалак столькі, колькі зможа скупіць іх, гэта значыць, што скупіць ад усіх, хто будзе іх мець на продаж. Плануецца таксама скупка ад сялян зялёнай цыбулі, пазней яблыкаў і іншай садавіны і гароднiны. Суполка прымае таксама прапановы ад сялян, што б яны хацелі прадаць, і пашукае на гэты тавар ахвотных.

Суполка „Пронар“ адкрыта на кантакт з мясцовымі сялянамі. У гэтых кантактах дапамагаюць ёй вясковыя крамы. За гэтыя тры гады існавання яна арганізавала (часта пераняла ад гэтсаў і „Руху“) 13 пунктаў продажу ў розных мясцовасцях. Вялікага даходу з вясковых крамаў суполка не мае, але свае пункты продажу трактуе як месца кантакту з гаспадарамі. Заходзячы ў краму па хлеб, цукар ці іншы тавар, селянін можа даведацца аб тым, што скупляе ў даны момант суполка і якія цэны плаціць за бульбу ці збожжа. На табліцы аб'яў падаюцца і тэрміны паставак. У самой Нарве раней было толькі тры крамы. А цяпер, дзякуючы суполцы „Пронар“, ёсць восем, і цэны ў іх канкурэнтныя: выбірай патрэбны тавар там, дзе ён найтаннейшы. А ў крамах, апрача прадметаў першай патрэбы, можна купіць і сетку з ацынкаванага дроту савецкай прадукцыі і ўгнаенні для падкормкі маладых раслін швейцарскай фірмы „Агроханза“ і шмат іншых рэчаў.

Даўно было вядома, што ў Нарве патрэбна станцыя продажу бензіну і саляркі для трактараў, бо, вядома, мясцовасць гэтая ляжыць на паўдарогі з Беластока ў турыстычную Белавежу. А найбліжэйшыя станцыі — за некалькі дзесяткаў кіламетраў.

Дык вось і гэтыя старыя планы ўжо рэалізавала ў Нарве маладая суполка „Пронар“. Ды зрабіла гэта з размахам, па-еўрапейску, як цяпер модна казаць. Выкупіла значны кавалак зямлі, працуе ўжо вялікая станцыя з добрым, значным запасам усіх відаў бензіну і саляркі, і тут жа — крама, у якой можна купіць амаль усё, ды яшчэ і адкрытая яна ўжо цяпер ад 5-ай гадзіны раніцы да 9-ай вечара, а ў сезоне будзе працаваць кругласутачна.

Як бачым, удзялоўцы суполкі працуюць з думкай і аб сённяшнім дні і аб будучыні. Грашыма пакуль што не дзеляцца. Гэта іх супольны капітал, які запрацэнтуе пазней значна большымі эфектамі. Капіталам іх стаецца і супольны вопыт гаспадарання па-новаму, па ўмовах новага ладу і канкурэнцыі, у разуменні катэгорый даходу і рэнтабельнасці, а галоўнае — тварам да кліента, што ў іх канкрэтным выпадку абазначае — тварам да людзей вёскі.

Не ўсё яшчэ ў суполкі ўкладаецца так, як хацелася б. Нялёгка сёння гандляваць з савецкімі партнёрамі. Савецкі рынак прыняў бы кожны тавар, але мае велізарныя клопаты з разлічэннем. Савецкая гандлёвая сістэма ў значнай меры паралізавана ўласным гаспадарчым крызісам і непрыстасаванасцю існуючых законаў да новай сітуацыі.

Суполка „Пронар“ цярпліва прачышчае новыя сцежкі да нармальнага гандлю і верыць, што з часам і гэтыя справы будуць уладкаваны.

**Яніна Чэрнякевіч**

## АДБРАХАЛКІ

Хаця я не надта пісьменны беларус, то, аднак, чытаючы рубрыку „Адгалоскі“, прыходжу да вываду, што павінна яна называцца „Адбрахалкі“. У апошні час затрачвае яна сваю ролю і ператвараецца ў месца псеўдадыскусій і лаянак. Штораз чытаю, як адзін карэспандэнт лае другога карэспандэнта, а гэты наадварот, лае першага. Карэспандэнты гэта ўсё ж людзі паважныя, напэўна адукаваныя (абы-хто не напіша па-беларуску!) і яны павінны ведаць, як сябе паводзіць, паўстрымоўвацца ад эпітэтаў. Як вы, дзядзькі (у добрым значэнні гэтага слова), хочаце выхаваць новае, інтэлектуальна здаровае пакаленне беларусаў з развітай нацыянальнай самасвядомасцю? Такім чынам можна толькі знеахвоціць да ўдзелу ў беларускім руху.

Калі „Ніва“ хоча стаць бульварнай газетай, яе справа. Але тады напэўна страціць чытачоў, напэўна не аднаго мяне. У „Ніве“ побач з „разумнымі выказваннямі карэспандэнтаў“ можна знайсці сапраўды многа канструктыўнага. Хацелася б, каб артыкулы будавалі, з'ядноўвалі нашу грамадскасць, а не знішчалі яе. Хацелася б, каб беларусы на Беласточчыне былі як нацыя, а не як адзінкі, якія кідаюцца ў розныя бакі (ад камунізму да анархізму).

**Ян Муцік**

## НІНА АМЕЛЬЯНЮК
# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ.**

**1. Слова — асноўная адзінка мовы[1].**

Лексікалогія (грэч. lexis — слова, logos — вучэнне) — раздзел мовазнаўства, які займаецца вывучэннем лексічнага складу мовы.

Асноўнай адзінкай мовы з'яўляецца слова. Слова абазначае розныя прадметы і з'явы рэчаіснасці. Словы спалучаюцца ў словазлучэнні і ў сказы і такім чынам служаць сродкам выказвання думак. У пісьмовай форме словы складаюцца з літар, а ў вуснай — з гукаў. Слова можа складацца з аднаго гука (*і, а*) і са спалучэння гукаў (*дрэва, горды, радавацца*). Аднак не кожны гук і не кожнае спалучэнне гукаў называецца словам, напрыклад, словам не з'яўляюцца гукі *б, р,* ці спалучэнні гукаў *атбр, ратб, табр,* але спалучэнне гукаў *брат* з'яўляецца словам. Значыць, гукі мусяць стаяць у адпаведным парадку, бо толькі тады маюць значэнне. З гэтага вынікае, што слова з'яўляецца двухбаковай адзінкай мовы: у ім вылучаецца знешні і ўнутраны бок. *Знешні* — гэта яго гукавая абалонка (на пісьме — літарная), а *ўнутраны* — яго значэнне.. Форма і значэнне знаходзяцца ў непарыўным адзінстве і ўзаемна абумоўліваюць адно другое: без знешняй формы слова не можа быць успрынята (вымаўлена і пачута ці ўбачана і прачытана), а без унутранай формы (значэння) — не можа быць асэнсавана. Такім чынам, слова — гэта гук ці спалучэнне гукаў, якія маюць пэўнае значэнне.

Слова мае абагульнены характар, напрыклад, слова *клён* абазначае не толькі нейкі канкрэтны клён, але ўсякі клён.

У слове адрозніваюцца значэнні: агульнае, лексічнае і граматычнае.

*Агульнае* значэнне — значэнне, характэрнае цэламу разраду слоў, напрыклад, словы *аловак, кніжка, стол* маюць агульнае значэнне прадметнасці, словы *вясёлы, зялёны, хітры* маюць агульнае значэнне якасці, словы *араць, гаварыць, чытаць* маюць агульнае значэнне дзеяння.

*Лексічнае* значэнне слова — гэта яго суаднесенасць з тымі ці іншымі прадметамі і з'явамі рэчаіснасці. Адны словы непасрэдна называюць прадметы (*дом*), прыметы (*малады*), дзеянні (*працаваць*), іншыя не называюць (*за, над, пад, перад*), але ў спалучэнні з самастойнымі словамі выражаюць пэўны сэнс, напр.: *за дрэвам — перад дрэвам, над сталом — пад сталом.*

Лексічнае значэнне слова можа быць прамым, сінтаксічна абумоўленым і фразеалагічна звязаным.

*Прамое (намінатыўнае)* значэнне з'яўляецца ў слове асноўным значэннем. Яно непасрэдна звязана з адлюстраваннем прадметаў і з'яў рэчаіснасці, напрыклад, словы *брат, вецер, маладосць, страх* з'яўляюцца назвамі паняццяў.

*Сінтаксічна абумоўленае* значэнне выступае толькі ў пэўным кантэксце. Яно з'яўляецца вытворным і пераносным, напрыклад, словазлучэнне *плакала лета* ў сказе *Плакала лета, зямлю пакідаючы, ціха ліліся слязінкі на поле.* (Б-ч).

*Фразеалагічна звязанае* значэнне выяўляецца ў складзе ўстойлівых спалучэнняў слоў — фразеалагізмаў, напрыклад, *богу душу аддаць* (памерці), *як кот наплакаў* (мала), *з глузду з'ехаць* (звар'яцець, здурнець), *даць пытлю* (прывучыць). Характэрнай рысай фразеалагізмаў з'яўляецца тое, што іх лексічнае значэнне ўласціва цэламу звароту, а не асобным словам.

*Граматычнае* значэнне слова выяўляецца ў адносінах яго з іншымі словамі ў выказванні, напрыклад, у словазлучэнні *ліпа трымала* са сказа *Старая ліпа на ўзмежку поля трымала сонца на руках зялёных* (Панч.) за лексічным значэннем слова *ліпа,* якое абазначае дрэва, выступаюць граматычныя значэнні прадметнасці, неадушаўлёнасці, адзінкавасці суб'екта, прыналежнасці да жаночага роду; за лексічным значэннем слова *трымала,* якое выражае дзеянне, — граматычныя значэнні дзеяння, выкананага адной асобай, дзеяння, якое накіравана і пераходзіць непасрэдна на аб'ект дзеяння, якое ўжо адбывалася і не закончылася.[3]

[1] Літаратура: В. П. Красней, Лексіка і фразеалогія беларускай мовы, Мінск 1982, с. 4—12; В. П. Красней, У. М. Лазоўскі, І. М. Шчарбакова. Сучасная беларуская мова. Лексікалогія, Фразеалогія, Мінск 1984, с. 3 —16.

[2] В. П. Красней, Лексіка ... с. 4

3 А. К. Юрэвіч, Марфалогія як раздзел граматыкі, у: Сучасная беларуская мова. Марфалогія, Мінск 1980, с. 80.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, маю двое дзяцей і мужа. Хацелася б, каб усё было як у людзей. Каб сям'я была, як кажуць, у кучы, каб я мела мужа, як іншыя маюць, і каб дочкі мае былі задаволены. На жаль, не выходзіць. Мой муж гэта тыповы экспанат на выстаўку мужагультая: працаваць не хоча, любіць гуляць, падабаецца яму выгоднае жыццё, але шмат вымагае ад сваёй жонкі. Любіць як бычок паспаць да дванаццатай, пасля спакойна паесці тое, што я наварыла перад работай, тады выйсці ў горад — мо дзе ўдасца злавіць якую халтуру, дык тады крыху падзаробіць. Мне вельмі крыўдна, што ў сапраўднасці я адна выхоўваю нашых дзяцей. Вельмі хацелі б яны мець бацьку клапатлівага, які б для іх працаваў, часамі нешта ім купіў, зрабіў бы з імі ўрокі.

А іх бацька часамі дык і зусім не вяртаецца нанач. А можа нават не прыйсці дахаты і на працягу некалькіх тыдняў. Тады гаворыць, што жыў у мамы або ў сястры. А ці я ведаю, дзе ён быў?!

Мілае Сэрцайка, але што ні кажы, я гэтага бычка кахаю. Мілы ён мне і ў пасцелі нікога іншага бачыць не хачу. Павінна я была даўно яго кінуць і пачаць жыць як чалавек, не звяртаючы ўвагу на яго настроі, але вось не магу.

У апошні час ён да нас зусім не горнецца. Як пайшоў, дык не было яго, мусіць, з паўгода. Дарагое Сэрцайка, як ты думаеш, ці мужчына можа паўгода жыць без жанчыны? Я думаю, што ў яго быў нехта іншы, а ён мяне пераконвае, што ў тым часе памагаў самотнай маці. Я ведаю, Сэрцайка, што ты мне параіш. Напэўна параіш, каб я знайшла сабе іншага мужчыну. І тады ніби я забудуся пра свайго недарэчнага мужа. Скажу табе па шчырасці. Усім знаёмым і сям'і я гавару, што было б гэта вялікім грэхам, які б я ўзяла на сваю душу. Як жа ж я магла б здрадзіць свайму мужу, я ж замужняя жанчына! Але табе, Сэрцайка, скажу праўду, што проста аднаго яго кахаю. Не магу глядзець на іншых. Калі яго няма, увесь час уяўляю сабе, што ён у пасцелі з іншай. Гэта даводзіць мяне да шаленства.

А яшчэ адно, мо найгоршае. Ён жа не дае граша на дзяцей. Я адна мушу цяжка працаваць, дарабляць па начах, каб неяк іх апрануць, накарміць. Яму гэта ўсё роўна. І вось я нарэшце рашылася і падала ў суд на аліменты. Няхай плоціць, думаю. Ён прыехаў у суд, бо маці перадала яму павестку, і ў судзе сказаў, што як жа, вядома, што будзе плаціць аліменты, ён жа бацька! Праз тыдзень пасля адбыўшайся справы ён вярнуўся дахаты, даўшы нам адну трэцюю прысуджаных аліментаў. Я падумала: Бог з ім, няхай будзе і столькі, але ж прынамсі дзеці будуць мець бацьку. Неяк даараблю і будзе добра. А як ты, Сэрцайка, думаеш, ці добра я зрабіла, што ізноў прыняла яго пасля такой доўгай разлукі?

**Алена**

Алена! Разумею цябе: ты б яму яшчэ ахвотна даплаціла, каб толькі ён застаўся з табою. Сітуацыя сапраўды трагікамічная. Сама ж бачыш, што ён гатоў праспацца з табою ад часу да часу, каб толькі не плаціць тых няшчасных аліментаў на сваіх жа дзяцей. Ты мо больш дзеля таго і падавала на тыя аліменты, каб сцягнуць яго дахаты. Але думаю, што з усяго гэтага лепш было б, каб ты сцягнула не яго, а грошы, якія прынамсі былі б выкарыстаны на вашых дзяцей. А так не досыць, што мусіш карміць дзяцей, дык яшчэ і блуднага мужа, які і так неўзабаве ізноў уцячэ.

**Сэрцайка**

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Сніцца мне, што я недзе за граніцай. Стаю вечарам дзесь на панадворку. Вакол мяне жыллёвыя блёкі. Раптам пачула якісь голас, свіст ці штось падобнае. Гляджу, а людзі ўглядаюцца ў неба. Я зірнула ўгару і ўбачыла вялізных рыб-птушак, якія ляцелі з усходу на захад. Выглядалі яны, як якіясь дапатопныя стварэнні. Потым яны завярнулі і пачалі ляцець на ўсход, бо там было мора. Людзі баяліся ўсяго гэтага, я — не вельмі. Падыйшла трохі далей, за блёк, а там бачу вялізных звяроў: сланоў, мамантаў. Усё гэта спяшалася на ўсход да мора.

**Валя**

Валя! Тыя вялізныя рыбыптушкі, якія ляцелі з усходу на захад, прадвяшчаюць для цябе нейкі няпэўны занятак (а мела быць нейкая радасць). Нешта ў цябе не будзе так добра, як бы ты хацела. Сустрэнуцца табе нейкія нецікавыя людзі, дзякуючы якім ты трапіш у небяспеку. Павернеш на ўсход?

Дарагі Астроне! Вось які прысніўся мне сон. Іду я з нейкімі людзьмі праз лес. Твараў тых людзей не памятаю. Лес вельмі прыгожы, зялёны, лісцісты. Ідзем простай дарогай, свеціць сонца. Было цёпла і вельмі прыемна. Так мы ідзем, аж бачу: на лугу стаіць стол. Я хацела на ім палажыць цыратавы абрус на чорны бок. Але сястра сяброўкі (сяброўка сястры ў сапраўднасці не мае) палажыла гэты абрус на зялёны бок. Я згадзілася з ёю, што на гэты ж бок прыгажэй. Што можа абазначаць гэты сон?

**Люся**

Што датычыцца твайго сну, Люся, дык ён наогул добры. Абазначае ён для цябе прыемную, спакойную будучыню, а мо нават нейкі фінансавы прыбытак. Прыгожы лес, зялёны і прыемны, сонца, зялёны луг, дый абрус, які ты адвярнула на зялёны бок, абазначаюць для цябе надзею на лепшае.

**Астрон**




## САЛАТА З МУШТАРДАЙ

На 1—2 галоўкі зялёнай салаты трэба ўзяць вялікі пучок зялёнай цыбулькі, 1 лыжку муштарды, 3—4 лыжкі алею, 3 лыжкі ёгурту, 2 зубкі часнаку, соль, цукар, лімонны сок.

Падзеленую на лісткі салату памыць, асушыць. Муштарду перамяшаць з алеем, дадаць ёгурт, добра перамяшаць. Дадаць лімоннага соку, солі і цукру, пасля — пасечаны часнок і зялёную цыбульку. Перамяшаць соус з лісткамі салаты. Пералажыць у салатніцу і есці адразу пасля падрыхтоўкі.

## САЛАТА З СЭЛЕРАЎ

На паўкілаграма сэлераў узяць 15 дэкаў яблыкаў, лімонны сок, 4 зубкі часнаку, 5 дэкаў валошскіх арэхаў, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, паўшклянкі маянезу, паўшклянкі ёгурту, соль, перац.

Сэлеры дакладна памыць, абабраць, сцерці на бурачанай тарцы. Тручы на тарцы, спырскваць лімонным сокам. Маянез перамяшаць з ёгуртам і сэлерамі. Яблык памыць, абабраць, дробна пасячы, спырскваючы лімонным сокам, дадаць да сэлераў. Дробненька пасячы часнок. Перамяшаць яго з салатай. Дадаць солі і перцу, пералажыць у салатніцу, пасыпаць зверху зялёнай пятрушкай і ўпрыгожыць часцінкамі валошскіх арэхаў.

## САЛАТА З ГАРОДНІНЫ

На 15 дэкаў морквы бярэм 15 дэкаў сэлера, 15 дэкаў цыбулі, 15 дэкаў кіслых агуркоў, 15 дэкаў яблыкаў, шклянку смятаны, лыжачку муштарды, лімонны сок ці агурковы квас, соль, цукар, перац, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі з зялёнай цыбулькай.

Гародніну памыць, абабраць, спаласнуць, асушыць. Памыць яблык, смятану перамяшаць з муштардай і палавінай пасечанай зеляніны, заправіць па смаку лімонным сокам, соллю, цукрам і перцам. Моркву і сэлер сцерці на бурачанай тарцы, перамяшаць з падрыхтаваным соусам. Яблык абабраць і дробна пасячы. Агуркі нарэзаць макаронікам. Усё перамяшаць з салатай. Дадаць солі, лімоннага соку і перцу, а таксама крышачку цукру. Падрыхтаваную салату пералажыць у салатніцу, пасыпаўшы рэштай зеляніны.

**Гаспадыня**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Люба Тарасюк

## БУСЛІХА



Узняўшы неба сіні шал,
Хістаючы аблокаў крыгі,
Бусліхі белая душа
Трывожна развінае крылы.

Ад гнёздаў цёплых немаўлят,
Што ўпершыню вітаюць сонца,
Яна адводзіць золь і град, —
А як ад іх адвесці стронцый?

Дзе ёй набрацца столькі крыл
На ўсе калыскі і на гнёзды,
Каб цэлы свет сабой закрыць
Ад жахаў атамнай пагрозы?..

Яна, ахоўніца жыцця,
Цяпер да кожнага парога
Нясе, як некалі дзіця,
Сваё пяро перасцярогі.

## ХРАБРЫ ПЕВЕНЬ

(латышская казка)

Жыў у Відземе адзін бедны чалавек. Не было ў яго ні кала ні двара — сваёй страхі не было над галавой, а кватараваў ён у панскай лазні. Ну, якое гэта жыццё, вядома — захацелася пану ў лазні памыцца, бядняк — на вуліцы, і ўзімку, і ўлетку... І быў у таго бедняка певень — і за сына, і за брата і за свата. Толькі і радасці ў бедняка, што на свайго пеўня палюбавацца ды з ім пагаварыць!

Прыціскаў пан бедняка, працай мардаваў, жыллём дакараў ды пад канец з лазні выгнаў разам з пеўнем. Заплакаў бядняк — няма каму за яго і заступіцца. Узлаваўся тут певень і кажа свайму гаспадару:

— Не бядуй! Пайду я ў маёнтак. Пагутару з панам!

І пайшоў певень у маёнтак. Па дарозе сустрэў ён мядзведзя:

— Дзень добры, мядзведзь!

— Дзень добры, певень! — адказвае той. — Ты куды ідзеш?

— Іду ў маёнтак, пана судзіць! Навошта майго гаспадара пакрыўдзіў?

— І я з табой! — кажа мядзведзь.

Ну, пайшлі яны. Па дарозе сустрэлі ваўка.

— Дзень добры, воўк, — кажа певень.

— Дзень добры, певень! — адказвае воўк. — Ты куды ідзеш?

— Іду ў маёнтак, пана судзіць! Навошта майго гаспадара пакрыўдзіў?

— І я з табой! — кажа воўк.

Ішлі, ішлі яны. Ляціць насустрач ім ястраб.

— Дзень добры, пеўнік! — кажа ястраб. — Куды ты сабраўся?

— Іду ў маёнтак, пана судзіць! Навошта майго гаспадара пакрыўдзіў?

— І я з табой! — кажа ястраб.

Прыйшлі яны ў панскі маёнтак. Мядзведзь, воўк і ястраб за кустамі схаваліся, а певень узляцеў на вароты і заспяваў:

— Кукарэку, пан! Ты майго гаспадара з лазні выгнаў, а я цябе з маёнтка выганю — навошта майго гаспадара крыўдзіў?

А пан на балконе сядзеў, каву піў. Узлаваўся ён на пеўня за яго песню — загадаў слугам злавіць пеўня ды ў гусятнік пасадзіць, каб зашчыпалі яго там гусі. Злавілі слугі пеўня, кінулі ў гусятнік. А тут ястраб паляцеў у гусятнік ды і задраў усіх гусей. Назаўтра раніцай певень вылецеў у дзверы і зноў — на вароты, сваю песню спявае:

— Кукарэку, пан! Ты майго гаспадара з лазні выгнаў, а я цябе з маёнтка выганю — навошта майго гаспадара крыўдзіў?

А пан на балконе сядзіць, каву п'е. Узлаваўся ён і загадаў кінуць пеўня ў хлеў, хай яго каровы ды быкі забадаюць. Злавілі слугі пеўня, кінулі ў хлеў. Назаўтра раніцай прыходзяць парабкі ў хлеў, бачаць — уся скаціна падушана, а певень — жывы, узляцеў зноў на вароты і давай сваё спяваць.

А пан ужо і не дакранаецца да кавы — сядзіць злосны-злосны. Загадаў ён слугам кінуць пеўня ў канюшню, каб коні затапталі яго. Злавілі слугі пеўня, кінулі ў канюшню, дзе самыя наравістыя коні стаялі. Тут мядзведзь кажа: „Ну, відаць, і мая чарга прыйшла!" — ды за пеўнем. Назаўтра раніцай ідуць парабкі ў канюшню — а мядзведзь усіх коней задраў. Певень выскачыў, на вароты ўзляцеў і зноў за сваю песню.

А пан ужо і на балконе не сядзіць — на двор бяжыць, сваёй чэлядзі загадвае пеўня злавіць ды зарэзаць. А певень давай сваіх памочнікаў клікаць — мядзведзя, ваўка ды ястраба. Вось ужо тут была бойка! Певень дзяўбе, мядзведзь дзярэ, воўк грве, а ястраб хапае. Кінуліся тут уроссып усе панскія слугі, хто куды — так уцякалі, што назад і дарогі не знайшлі. Паклаў певень пана на лапаткі, пытае:

— Што хочаш: памерці ці быць маім свінапасам ды сабакаром?

А пан адказвае:

— Ох, лепш быць сабакаром, чым цяпер памерці!

Паляцеў тут ястраб у сваё гняздо, воўк у поле паскакаў — па сваіх справах, мядзведзь у лес пайшоў. А певень прывёў свайго гаспадара ў маёнтак, і абодва пачалі жыць шчасліва, а пан быў у іх свінапасам ды сабакаром.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Віктар Гардзей

### СОНЕЙКА

Малаком разліўся ранак
Над зямлёю веснавой.
Сонейка плыве з туману —
Піць той пенны сырадой.

Як нап'ецца сырадою,
То румянец на шчацэ,
Паплыве па-над вадою,
Пакупаецца ў рацэ...

### РАНІЧКА

Ранічка працёрла
Вочкі,
Жаўрукоў звіняць
Званочкі.

Звон зазыўны
Над палямі,
Пералескамі,
Лугамі,

І над сцежкай
Звон вясёлы,
Каб ты бег хутчэй
У школу.

### ПЧОЛКА

— Як ты, пчолка,
Зімку зімавала?
— Без пахучых кветак
Сумавала!

Сонейка прыгрэе
На прыволлі,
І лячу я на лугі,
На поле...
Дзе ні стрэну
Краску веснавую,
Дык яе ад радасці
Цалую.

## ЛЕГЕНДЫ І ПАДАННІ

### РАК

Бог тварыў свет. Усе твары прыйшлі да Яго і пакланіліся. Бог уставіў кожнай твары вочы, каб усе пагля-дзелі на Яго. Пасля ўсіх прывалокся рак.

— І дзе ж ты, рак-небарак, валачыўся дасюль? — запытаўся Тварэц.

— Поркаўся тамака ў карчах, — адказаў рак і не кланяецца Богу.

— Вазьмі, рача, сабе гэтыя вочы, якія тутака засталіся, — сказаў Гасподзь.

Рак пашчупаў сваімі клюшнямі тыя вочы і кінуў іх пад ногі Богу.

— Вазьмі іх сабе, гэтыя паганыя вочы, і ўстаў куды хочаш, а мне такія вочы не трэба! — рак сказаў горда і адвярнуўся к самому Богу задам.

— Дык не мне ж гэтыя вочы трэба, паганы рак, а табе, — загрымеў Бог і ўставіў раку вочы ў зад.

З тых пор ва ўсіх стварэнняў вочы як вочы, а ў рака вочы ззаду.

### ПЧАЛА

Пчала сярдзітая. Прасіла ў Бога, каб той, каго яна ўкусіць, уміраў. Сказаў ёй Бог:

— Не, гэтак ты многа народу знішчыш. Лепей будзе, так: калі ўкусіш, сама памрэш.

Так яно і ёсць — калі пчала ўкусіць, дык сама памрэ.

На яе нельга казаць, як на скаціну: здохла, а трэба казаць: умерла. Бо ў яе і ў голуба, і ў чалавека адзін дух. А на чалавека ж не кажуць — здох, а памёр, дык і на іх так трэба казаць...

*(З кнігі „Легенды і паданні")*



**А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А**

### ФІШКІ „ГУЛЯЮЦЬ У ХОВАНКІ“

На гэтай дошцы расстаўлены 36 фішак. Пакінь толькі 12 фішак, але так, каб у кожным радзе — вертыкальным і гарызантальным, а таксама па дыяганалях было не больш як дзве фішкі. І яшчэ ўмова: чорныя фішкі павінны застацца на дошцы.

*Вершы Віктара Шведа*

### ЗАДОЎГІЯ ВУШЫ

— Твой выгляд, Паўлуша,
Як зайкі ў капусце.
Задоўгія вушы
Выраслі чамусьці?

Адказаў ён з жалем
Дасціпнаму Лёўку:
— Лепш бы пасавалі
Да тваёй галоўкі.

### НА ЎРОКУ ХІМІІ

Настаўнік на ўроку пытаецца:
— Скажы, калі ласка, Ніна,
Што з золатам атрымаецца,
Калі на паветры пакінем?

Падказка дзяўчынцы марыцца,
З падказкай прыходзіць Фома:
— Што з золатам іншага
здарыцца? —
Яго ж украдуць у нас, вядома.

# ПРЫГОДЫ БЕЛАВЕЖЫКА:




























Спецыяльна для „Зоркі“ прыдумаў і намаляваў студэнт III курса Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску Гардзей Шчаглоў.


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.

